# Веснік НДА

Вестник NGO

2005 сакавік № 1 (42)



БЮЛЕТЭНЬ ВІЦЕБСКАГА АБЛАСНОГА АДДЗЯЛЕННЯ ГА «ФОНД ІМЯ ЛЬВА САПЕГІ»


## *Тэма нумару: «НДА і прэзідэнцкія выбары»*

Не паспелі аціхнуць жарсці ад парламенцкіх выбараў, а прагрэсіўнае грамадства ўжо рыхтуецца да новых, прэзідэнцкіх. Жарсці падаграюць і нашы блізкія, і суседзі з былога Саюза. І стары і малы пытаецца: "А ў нас калі будзе штосьці падобнае, як у Кіеве ці Бішкеку? І якая яна будзе, беларуская рэвалюцыя? Валошкавая? А можа, яна пройдзе ў жніўні і будзе названая жытнёвай?"

На гэтыя пытанні, думаецца, адкажа толькі час. Адно абсалютна зразумела ўжо сёння: без рэвалюцыі не абысціся. І галоўнай яе прычынай з'яўляюцца паводзіны цяперашняга правіцеля рэспублікі.

Калі Кучма з Акаевым, не збіраючыся пажыццёва кіраваць, ўсё адно выклікалі рэвалюцыйную сітуацыю, то наш быццам усімі сваімі паводзінамі кажа: "Хлопцы, без рэвалюцыі я не сыйду. Альбо цярпіце мяне вечна, альбо вяршыце рэвалюцыю".

Дык скажыце, калі ласка, які народ, нават самы памяркоўны, згадзіцца вечна цярпець такога. Прыйдзецца, атрымліваецца, рабіць рэвалюцыю.

Менавіта ў кантэксце гэтай "непажаданай" і даводзіцца разглядаць выбары прэзідэнта-2006. Ці будуць яны пікам, вянцом рэвалюцыйнай сітуацыі, як на Украіне, ці ўсё адбудзецца раней і галасаваць мы будзем у вольнай краіне, як у Кіргізіі? А можа, выбары будуць толькі пачаткам? І на гэтыя пытанні адкажа час.

Аднак ёсць і другія пытанні, на якія варта адказаць сёння.

Узгадаем вялікага тактыка рэвалюцый Ульянава-Леніна. Па Леніну, каб рэвалюцыя адбылася, павінны быць прычыны і рухаючая сіла. Прычыны нам забяспечыла цяперашняя ўлада: вярхі не могуць кіраваць, а нізы не жадаюць жыць па-старому. Калі ўлада для сваёй бяспекі выкарыстоўвае фальсіфікацыю і сілу – яна бяссільная. Калі супраць 200 маладых людзей з кветкамі і бел-чырвона-белымі сцяжкамі кідаюць узброеных да зубоў у бронекамізэльках амапаўцаў – улада не можа кіраваць па- старому. Тое, што нізы не жадаюць жыць па-старому, бачна на вуліцах, у крамах, на прадпрыемствах.

Значыцца, прычыны для рэвалюцыі ёсць. Цяпер пра рухаючаю сілу. Вядома, што ёй у рэвалюцыі з'яўляецца народ, прынамсі, ягоная актыўная частка. Пытанне: дзе гэтая актыўная частка? У палітычных партыях? Калі б размова ішла не пра рэвалюцыю, а пра класічны дэмакратычны працэс – выбары, то дзесяцімільённай краіне хапіла б 1% палітычна актыўных жыхароў дзеля таго, каб факт выбараў прэзідэнта прайшоў свабодна, дэмакратычна, легітымна. То бок, недзе сто тысяч сябраў розных партый здолелі б забяспечыць у дэмакратычных умовах сітуацыю, калі народ свабодна абярэ прэзідэнта.

Але, па-першае, Беларусь – не дэмакратычная краіна, а па-другое – колькасць сябраў усіх партый (і дэмакратычных і лукашэнкаўскіх) не дасягае і дзесяці тысяч.

У такім разе – дзе ж тая актыўная частка насельніцтва, якая, па Леніну, павінна стаць "рухаючай сілай"? Зноў і зноў мы вымушаны глядзець у бок трэцяга сектару і прафсаюзаў. Менавіта сярод 200 неўрадавых арганізацый Віцебскай вобласці – авангарда палітычнага працэсу – дэмакратычныя партыі павінны браць згаданую сілу. З гэтых 200 НДА каля 70 адкрыта заявілі аб сваёй гатоўнасці падтрымаць "адзінага" кандыдата. А гэта не менш за 700 чалавек. Зазначу, што гэта не "маса", як любіў казаць Ленін. "Маса" далучаецца пасля, калі актыў пачынае. Сотні тысяч тых, хто сёння ціха і баязліва сядзіць дома, пaглядаючы ў акно, далучацца, калі актыўная тысяча пачне рашучую і бескампрамісную барацьбу.

Таму, распрацоўваючы стратэгію, авангард – палітычныя партыі – павінен убачыць сваіх аднадумцаў, без якіх поспех немагчымы.

А што ж НДА? Навошта рэвалюцыя ім? На самой справе, задача няўрадавых арганізацый – дапамога людзям і абарона грамадзян ад беззаконня ўлады, як таталітарнай, так і дэмакратычнай. Людзі аб'ядноўваюцца ў грамадскія арганізацыі, каб займацца асветай, дапамагаць бедным, бяздомным, неабароненым, абараняць прыроду і культурную спадчыну. Гэтыя праблемы былі ў нашай краіне пры камуністах, квітнеюць яны і сёння, застануцца і пры дэмакратах.

Дык які ж сэнс таварыству "Ахова птушак" далучацца да палітычнай баталіі, калі змена рэжыму не абароніць гэтых самых птушак? Прасты, бо дыктатура не дапускае, каб усялякія "адмарозкі" ахоўвалі птушак. Пры дыктатуры птушак можа ахоўваць толькі адзін чалавек і, у лепшым выпадку, ягоныя ўзброеныя стаўленікі.

Таму "ахоўнікі птушак", "памагатыя інвалідаў", "змагары за культурную і гістарычную спадчыну" гатовыя дапамагчы дэмакратычным партыям не дзеля таго, каб атрымліваць партфелі ў будучай адміністрацыі, а за самое права "ахоўваць", "дапамагаць", "клапаціцца".

На жаль, без рэвалюцыі гэтыя правы не атрымаць.

Сонца будзе!

*Х.Жэляпаў*

# Сергей Калякин

**_Абіраем адзінага_**



Родился 16 июня 1952 года в городе Минске.

Окончил Минский радиотехнический институт, радиоинженер (1977), Белорусский государственный университет, политолог (1992).

Служил в Советской Армии (1970 – 1972).

Работал техником треста «Оргтехстрой» Минпромстроя БССР, наладчиком электронного оборудования в производственно-техническом объединении «Интеграл», заведуюшим сектором, заместителем командира в Республиканском штабе студенческих строительных отрядов ЦК ЛКСМБ. С 1983 г. перешел на партийную и советскую работу: инструктор организационных отделов Партизанского райкома и минского горкома КПБ, секретарь парткома треста Белсвязьстрой , заместитель председателя Советского райисполкома Минска, второй, а затем и первый секретарь Советского райкома КПБ Минска. После ликвидации КПСС временно не работал.

Депутат Верховного Совета Республики Беларусь 13 созыва, член Президиума и руководитель фракции коммунистов. Представлял Верховный Совет Республики Беларусь в Парламентской Ассамблее Совета Европы.

Не признал итоги ноябрьского 1996 г. референдума по изменению Конституции, не перешел на работу в сформированное Президентом Александром Лукашенко Национальное собрание. После антиконституционного референдума 1996 года безработный.

Член КПСС с 1977, член Партии коммунистов Белорусской (ПКБ) с 1991. С 1991 года - секретарь, а с 1994 года - первый секретарь ЦК ПКБ.

Принимал участие в президентских выборах 2001 года.

Соавтор и инициатор вынесения на референдум 1996 г. альтернативного президентскому проекта Конституции РБ, активный участник процедуры импичмента президенту А.Лукашенко.

Один из лидеров гражданской инициативы «Пятерка плюс» и авторов программы объединенных демократических сил «Пять шагов к лучшей жизни».

Женат, двое детей.

---

# Анатолий Лебедько



Родился в 1961 году в Столбцовском районе Минской области. Уже в 12 лет начал работать, помогал отцу убирать хлеб. От отца унаследовал энергичность, упорство в достижении цели, трудолюбие и веру в жизненный успех.

Закончил факультет истории и французского языка Минского пединститута, юридический факультет Белорусского государственного университета.

Служил в Советской Армии, офицер запаса.

Работал учителем, потом заместителем директора школы-интерната.

Депутат Верховного Совета Республики Беларусь 12-го и 13-го созывов.

Работал заместителем председателя Комиссии ВС по делам молодежи, семьи и женщин (1990-1995 г.г.), председателем Комиссии ВС по международным делам, заместителем председателя Верховоного Совета 13 го созыва.

Президент Белорусской ассоциации молодых политиков (1991-1999 г.г.).

Член Парламентских ассамблей ОБСЕ и Совета Европы.

С 2000 года до настоящего времени — Председатель Объединенной гражданской партии.

Член Белорусской ассоциации журналистов, автор более 200 статей, посвященных проблемам экономики, права и развития белорусского общества.

Родители — Владимир Михайлович и Мария Ивановна — сельские труженики, работали в колхозе им. Суворова Столбцовского района: отец тракторист-механизатор, мать — полевод и животновод. Сейчас оба на пенсии.

Анатолий Лебедько — прекрасный семьянин.

Жена Светлана работает преподавателем английского языка, сын Артем — студент БГУ.





# Аляксандр Мілінкевіч

Кіраўнік праграм "Фонд спрыяння лакальнаму развіццю" і закрытага ўладамі грамадскага аб'яднання "Ратуша".

Нарадзіўся 25.07.1947г. у г.Гродне. Кандыдат фізіка-матэматычных навук.

Быў настаўнікам, скончыў аспірантуру, працаваў у Інстытуце фізікі Акадэміі навук БССР. З 1976-га па 1978 г. — інжынер і выкладчык Гродзенскага педагагічнага інстытута, дацэнт Гродзенскага дзяржаўнага універсітэта імя Янкі Купалы (1978—2000 гг.), намеснік старшыні Гродзенскага гарвыканкама (1990—1996 гг.). Займаўся пытаннямі адукацыі, культуры, рэлігіі, аховы здароўя, СМІ, міжнародных адносін, спорту, моладзі.

У 2001 годзе Аляксандр Мілінкевіч быў кіраўніком выбарчага штаба кандыдата ў прэзідэнты Сямёна Домаша.

Аляксандр Мілінкевіч валодае пяццю мовамі. Стажыраваўся ў Германіі, Францыі, ЗША, Бельгіі, Галандыі, Польшчы і іншых краінах, дзе вывучаў пытанні дзяржаўнага будаўніцтва, нацыянальнай бяспекі, эканамічных рэформ і правоў чалавека. Выступаў з аналітычнымі дакладамі перад экспертамі Еўракамісіі ў Бруселі, Еўрапарламента ў Страсбургу, а таксама Варшаве і Маскве.

Аўтар 65 навуковых работ па квантавай электроніцы, лазернай тэхніцы, гісторыі культуры, адукацыі, архітэктуры і тэхнікі.

У 1989 годзе Аляксандр Мілінкевіч узнагароджаны ордэнам "За заслугі перад польскай культурай". У 1997 г. — лаўрэат Міжнароднай прэміі Незалежнага Фонду "PolCul" (Аўстралія).

# Станислав Шушкевич



Родился 15 декабря 1934 года в городе Минске. Родители по образованию учителя происходили из крестьян.

В 1951 г. закончил среднюю школу с золотой медалью, в 1956 г. - закончил физико-математический факультет БГУ, в 1959 г. — закончил Аспирантуру Института физики Академии наук Белорусской ССР. Доктор физико-математических наук (1970), профессор (1973), член-корреспондент НАН Беларуси (1991). Тема докторской диссертации: «Информационные параметры сигналов». Владеет польским, немецким, английским языками.

Работал младшим научным сотрудником Института физики АН БССР, старшим инженером на Минском радиозаводе. С 1961 года работал в Белгосуниверситете (за исключением двух лет, когда был проректором по научной работе Минского радиотехнического института), руководил кафедрой ядерной физики и электроники, был проректором по научной работе БГУ. Является известным специалистом в области ядерной электроники.

Народный депутат СССР (1989 - 1991), депутат Верховного Совета Беларуси (1990 - 1995), первый заместитель Председателя Верховного Совета (1990 - 1991), председатель Верховного Совета (1991 - 1994). Депутат Верховного Совета Республики Беларусь 13 созыва.

26 января 1994 г. был снят с поста председателя ВС (по материалам парламентской комиссии, возглавляемой Александром Лукашенко).

Подписал заявление в Конституционный Суд Республики Беларусь об импичменте президента Республики Беларусь. Не признал итоги ноябрьского 1996 г. референдума об изменении Конституции и не вошел в сформированную Президентом Александра Лукашенков Палату представителей Национального собрания Республики Беларусь.

Председатель партии «Беларуская сацыял-дэмакратычная Грамада» (с 1998).

Женат вторым браком.

# Навіны трэцяга сектара



Имеют ли право беларусы собираться больше трех для того, чтобы сделать что-то хорошее. Для себя, для других, для общества. Конституция говорит, что «да». Беларуский парламент когда-то даже принял Закон «Об общественных объединениях». Правда за последние годы этот закон всячески корректировался различными Указами и Декретами для того, чтобы урезать права граждан собираться больше трех, но на сегодня сам Закон еще не отменен.

Так как наше общество с 1996 года живет не по Конституции и Законам, а по Указам и Декретам и указаниям, то права граждан на объединение за 10 лет почти сведены на нет. С 2001 года практически прекращена регистрация неправительственных организаций, а в последние два года идет активная зачистка третьего сектора. Сотни НПО, гражданских инициатив, клубов работают полулегально. И дело даже не в том, что они не имеют официальной регистрации в органах юстиции. В конце концов в демократических странах этого не требуется. Хочет организация приобретать юридический статус и открывать счет в банке – пожалуйста, нет – не надо. Сообщите в местную администрацию о своем существовании и работайте.

В Беларуси запрещено делать добрые дела если вы не получили добро в виде регистрации в Управлении юстиции. В беларуском законодательстве добрые дела незарегистрированной группы людей наказываются «административным правонарушением, посягающим на правосудие и установленный порядок управления».

Что же делать в таком случае добрым людям. Можно, конечно, найти какие-то пути в обход неразумному законодательству. Можно отстаивать свои права. Существует международное право, которое должно уважать и соблюдать каждое государство – член ООН. Есть еще европейские законы, но Беларусь не член Совета Европы, поэтому наше государство не признает законы Европы. Тем не менее, гипотетически, мы являясь членами ООН должны соблюдать международные законы. А эти законы говорят о том, что «каждый человек



имеет право на свободу ассоциации с другими». Это указано в статье 22 Международного пакта о гражданских и политических правах. О том же говорит ст.20 Всеобщей декларации прав человека.

А еще в Пакте сказано «ничто в настоящее время не дает права государствам принимать законодательные акты в ущерб гарантиям, или применять закон таким образом, чтобы наносился ущерб этим гарантиям.

Значит Международные законодательные акты, подписанные нашим государством дают нам гарантии права на свободу ассоциации с другими (объединений).



А вот беларуская власть таких гарантий нам не хочет давать.

Вывод. Необходимо, основываясь на международных законах отстаивать свои права перед беларускими властями.

К сожалению мы не являемся членами Совета Европы, поэтому положения «Конвенции о защите прав человека и основных свобод» на граждан нашей страны не распространяется и двери Гаагского суда для нас закрыты.

Тем не менее дело не совсем безнадежно. Гражданин Беларуси, права на объединение которого нарушены может обратиться в Комитет по правам человека ООН, который расположен в Женеве. В настоящее время Комитет рассматривает пять жалоб граждан Беларуси по делу Сморгонского общественного объединения «Правозащитный центр», общественного объединения «Хельсинки- XXI», гомельского областного общественного объединения «Гражданские инициативы», общественного объединения «Правозащитный центр «Весна», общественного объединения «Независимое общество правовых исследований».

Обо всем этом рассказали участникам встречи – активистам неправительственных организаций Витебщины гости из Минска Борис Звозсков (ОО «Правовая инициатива») и Наталья Гринь – преподаватель закрытого Европейского гуманитарного университета. Специалисты в области прав человека были приглашены областным ресурсным центром для информационной помощи неправительственным организациям. В реестре областного Управления юстиции более 270 зарегистрированных НПО. Но еще столько же организаций и инициатив, которые хотели бы получить государственную регистрацию, но давно отчаялись этого добиться. Может нам поможет Комитет по правам человека ООН?





## *Дзённік Віцебшчыны*

# ДЗЕНЬ ВОЛІ - 2005



На думку кожнага сьвядомага новаплынеўца, каб сьвята цягнулася даўжэй, трэба ці раней пачаць, ці пазьней скончыць. Таму, калі 24-га сакавіка ўвечары мы выйшлі на вуліцы горада са стосамі вершаў ды клеем ПВА ў футлярчыках з-пад фотастужкі, настрой ужо быў сьвяточны. Потым дзьвюхгадзінавы камедыйны трылер з элементамі партызанскага руху – і горад падрыхтаваны да Дня Волі. Раніцай 25-га віцябляне маглі зачытвацца файнымі беларускімі вершамі паўсюдна: памаранчовыя стужачкі прыцягвалі гараджан да дошак аб'яў, прыпынкаў, слупоў, платоў.

Уласна сьвяткаваньне пачалося а пятай гадзіне, калі народ пасьля працоўнага (на жаль) дня разыходзіўся па дамох. Нашая калёна (наперадзе дзяўчаты, далей – хіпа-панкавая рота хлопцаў зь гітарай) зь песьнямі рухалася да першае станцыі – тэатра імя Я.Коласа. На яго прыступках разгарнулася імправізаваная сцэна. Нашыя "тэатралы" чыталі па ролях верш Я.Купалы "Сын і маці". Выпадковыя прахожыя ўслухоўваліся, спыняліся, захапляліся... Дый ня дзіва: ня кожны дзень патрапіш на выдатную халяўную імпрэзу, адзіная плата за якую – бурныя воплескі.

"Купалаўскія чытаньні" працягнуліся на прыпынку ля "сіняга дома". Са стомленага, галоднага натоўпу паліліся радкі "Спадчыны". Адзін голас... другі... некалькі... Хор галасоў, што чытаў апошні слупок, перакрыў нават прызыўны гул доўгачаканага васемнаццатага аўтобуса.

"Спадчыну", "Пагоню", а таксама нашыя амаль стройныя сьпевы пачулі пазьней бібліятэка імя Леніна і яшчэ некалькі прыпынкаў.

Чарговы творчы ўсплёск радаваў ужо "яму". "На біс" запусьцілі несумненны посьпех культурнае праграмы – "Сын і маці". А потым кожны, хто хацеў, здолеў выказацца ў вершах, чытаючы творы любімых паэтаў сябрам і выпадковым прахожым.

Далейшы наш шлях пралягаў па вуліцы Леніна, да помніка Уладзіміру Сямёнавічу Караткевічу. Па дарозе віншавалі сустрэчных, дорачы ім, акрамя сонечных усьмешак, бел-чырвона-белыя сьцяжкі ды раздрукоўкі вершаў. Рэакцыя людзей была самая розная, ад сьціслага "спасибо!" да разгорнутых дыялёгаў кшталту: "А што за сьвята?" "Дзень Волі, Дзень абвешчаньня Беларускай Народнай Рэспублікі". "О, класна, ужо абвясьцілі?" Прыемна было нам, напаўзаспаным, чуць: "Вершы? А мы чыталі сёньня на прыпынку. А якія ёсьць яшчэ?" Міліцыянты падазрона паглядалі з-пад бізаў, як да нас радасна кідаліся дзеці ды выхоплівалі з рук сьцягі. Мо, карцела прыпадабніцца да юнага пакаленьня, але цяжкая доля ахоўнікаў дзяржаўнага рэжыму ды наводчыкаў грамадскага беспарадку не дазваляла паддацца эмоцыям.

Ля помніка мы паспрабавалі працягнуць чытаньне вершаў. Аднак нязьменныя спадарожнікі пазарэжымавых сьвятаў – амапаўцы ды дэбэшнікі – вытрымалі толькі знаёмую са школьнае праграмы "Спадчыну". Вершы Караткевіча яны ўспрынялі як



папрок ва ўласнае бязграматнасьці, таму вырашылі спыніць "безабразіе". Кола антыслухачоў сьціснулася вакол нас. Спадар з маёрскімі пагонамі выдаў гладка пабудаваную прамову (праўда, найразумнейшым зь яе довадаў стаў расповед пра нашае знаходжаньне ў Кастрычніцкім раёне, у чым мы ні на хвіліну й не сумняваліся). Выслухаўшы абвяржэньне на кожны пункт свайго выказваньня, маёр захваляваўся, задумаўся... ды, натуральна, прывёў свой галоўны аргумант: моцны тыл у асобах вялікае колькасьці міліцыянтаў. Размаўляў пры гэтым па-расейску ўжо з адметнымі беларускімі ўстаўкамі.

Дапамога з боку структураў прыбывала, і нам прыйшлося сысьці. Калі натоўп рушыў уніз па прыступках, нехта раптам засьпяваў "Малітву" Купалы. Праз колькі імгненьняў пранікнёнае "Я буду маліцца і сэрцам, і думамі" зацягнула ўся калёна, што павольна адыходзіла ад помніка. Аслупянелыя міліцыянты моўчкі ўтаропіліся ў нашыя сьпіны, потым частка занялася прыбіраньнем "антысанітарыі" вакол помніка, а астатнія кінуліся ў горад, у бясьсільнае крыўдзе адбіраючы сьцяжкі ды вершы ў мірных гараджанаў...

Са сьвятам, спадарства! :)

---

К началу нашего марша Свободы из-за облаков выглянуло солнце. Ура! И солнышко за нас!



Собравшиеся на акцию двинулись по ул. Ленина от пл.Победы . У каждого участника в руках по несколько штук бело-красно-белых флажков, у многих такие же шарфы, а над нами реют бело-красно-белые шары. Мы поздравляем прохожих с праздником и дарим им наши флажки с надписью: «87-мыя угодки абвяшчэння Беларускай народнай республики. 1918 – 2005 гг.»

На площади Свободы к нам присоединяются опоздавшие (ведь сегодня рабочий день) и другие неравнодушные люди. Жители города с улыбкой берут флажки и благодарят нас. Некоторые отказываются, но таких мало. А некоторые подходили и спрашивали, где можно купить такие шарфы. Признаемся скромно, что их пошили члены ОГП. На праздник нас собралось около ста человек: члены ОГП, партии БНФ, БСДП(НГ), незарегистрированной молодёжной организации «Маладая Беларусь» и другие присоединившиеся. У всех праздничное настроение. И его не может испортить даже милиция, которая встретила нас на площади Победы и сопровождала до конца акции, запрещая нам размахивать бело-красно-белыми шарфами.

Любимому писателю, настоящему белорусу Владимиру Короткевичу от нас к подножию его памятника букетики цветов (тоже бело-красно-белые), и выпущенные в небо шары. Трижды прокричав «Жыве Беларусь!» (к большому неудовольствии милиции) мы закончили нашу акцию, которая продолжалась полтора часа. 3000 флажков в руках у жителей города украсили центр города. Говорят, что позже милиция ездила по городу и отбирала у людей флажки, подаренные нами.

Но всё равно «Жыве Беларусь»!

Зам.председателя Витебской городской организации ОГП Е.Залесская






## Фонды і конкурсы

# Программа Малых Проектов ( Matra/KAP) при Посольстве Королевства Нидерландов в Варшаве.

Признание ценности малых инициатив

**Matra** – программа Министерства Иностранных Дел Нидерландов. Она сфокусирована на деятельности, направленной на дальнейшее развитие и усиление структур открытого, многогранного и демократического общества.

Заявки на получение грантов Matra/KAP из Беларуси должны направляться в Посольство Нидерландов в Варшаве. Условия для утверждения заявок определены далее. Посольство уполномочено предоставлять гранты максимум до 18,000 USD. (15,000 Euro, курс 2005 г.)

**Требования по содержанию проекта:**

Чтобы соответствовать условиям Matra/KAP, проект должен быть нацелен на социальные изменения в направлении многогранного гражданского общества. Содержание проекта и его цели должны полностью соответствовать требованиям Matra .

Он должен каким-либо образом усиливать гражданское общество и делать его более разнообразным.

Примерами такой активности могут быть:

- инициативы по укреплению главенства закона, по защите прав человека, национальных меньшинств, охране природы, общественному участию в местном управлении и т.д.;
- инициативы по укреплению неправительственных организаций ( НПО );
- инициативы по укреплению роли независимых СМИ, новаторских инициатив по образованию и искусству, способствующие процессам социальной трансформации и становлению демократии.

**Необходимые подходы к проектам:**

- проект должен осуществляться по местной инициативе ;
- он должен быть нацелен на четко определенную целевую группу;
- целевая группа должна быть активно вовлечена в осуществление проекта;
- целевая группа должна внести свой существенный вклад в осуществление проекта посредством денежных пожертвований, оборудованием, предоставлением помещения или своим трудом;
- проект должен быть осуществимым в конкретных местных условиях;
- он должен быть мелкомасштабным и некоммерческим;
- его продолжительность не должна превышать 12 месяцев.

**Требования по подаче заявки:**

- заявка должна быть представлена в местное Посольство Нидерландов;
- заявка должна быть представлена организаторами проекта лично;
- заявка должна быть заполнена на английском языке (желательно приложить версию на русском/белорусском языке);
- к заявке должно быть приложено подписанное сопроводительное письмо о предложениях проекта;
- заявка должна обязательно содержать:
- информацию об организации и ее наиболее значимых достижениях;
- детальное описание целей проекта и планируемой деятельности;
- точное указание как проект усилит позиции гражданского общества;
- ясное определение целевой группы и, если возможно, процедуры ее отбора;
- этапы осуществления проекта;
- детальный и прозрачный бюджет ( содержащий таблицу с колонками ) в USD ; оценивая все расходы и обозначая каждый источник дохода, так же как и расходы ( вклады ) организаторов проекта и целевой группы ( кто и какую часть проекта спонсировал и какой суммой); выделяя к тому же желаемый вклад Matra/KAP и на какие точно цели. Пункт дает ясно понять, что гранты Matra/KAP ни коим образом не финансируют проекты в целом. Получаемые фонды должны быть предназначены для определенных видов деятельности представленного проекта.

В заявке должны указываться конкретные суммы:

- запрашиваемые у других доноров (если этот проект или его отдельные части передаются на рассмотрение другим донорам) и
- выделенные другими донорами (если денежные средства уже получены от них).

Беларуские соискатели, заинтересованные в грантах Matra/KAP, могут обращаться в Посольство Королевства Нидерландов в Варшаве в любое время и подавать заявки в свободной форме.

Адрес :
Royal Netherlands Embassy
Matra/KAP
10, Kawalerii St.
00-468 Warsaw, Poland
http:// www.nlembassy.pl

Contact person:
Mr. Lukasz Byrski (war-matra@minbuza.nl)

Информацию по программе Matra/KAP в РБ можно также получить в Консульстве Королевства Нидерландов в Минске у Винокурова А.Д. по телефону (017) 262 53 23 (nlconsulate@mail.by).

---

## Эўрапэйская камісія абвяшчае конкурс праектаў на карысьць грамадзтва ў Беларусі, якія будуць фінансавацца Эўрапейскім Зьвязам у межах бюджэтнай лініі "Дэцэнтралізаванае супрацоўніцтва"

***Прыярытэты:***
- Падтрымка ініцыятываў, чые мэты скіраваныя на павелічэньне разнастайнасьці і ўзмацненьня грамадзянскай супольнасьці і дэмакратыі.
- Падтрымка ініцыятываў, якія накіраваныя на паляпшэньне муніцыпальнага кіраваньня праз стварэньне арганізацый, якія аказваюць асноўныя паслугі, удасканаленьне прававога асяродзьдзя, палажэньняў ураду, працэдур.
- Падтрымка ініцыятываў, якія скіраваныя на зьмяненьне прававога асяродзьдзя праз зьмяненьне існуючага заканадаўства.
- Пашырэньне сацыяльнага дыялёгу.

У межах гэтых прыярытэтаў вылучаныя спэцыфічныя напрамкі для Беларусі:
- Разьвіцьцё сацыяльнага дыялёгу паміж мясцовымі урадамі і грамадзкімі арганізацыямі.
- Спрыяньне рэалізацыі сацыяльных і культурных правоў.
- Дзейнасьць накіраваная на зьніжэньне беднаты.
- Падтрымка культурнай разнастайнасьці і змаганьня супраць нецярпімасьці.

Гранты у межах гэтай праграмы: ад 10 000 да 100 000 эўра.
Бюджэт не павінен перавышаць 90% ад усёй сумы выдаткаў па пэўнаму праекту.

Недзяржаўныя арганізацыі, якія прэтэндуюць на атрыманьне гранту павінны давесьці, што яны сапраўды незалежныя ад ураду (гэта не павінна быць ніякая дзяржаўная, грамадзкая, нацыянальная ці міжнародная арганізацыя, якая кантралюецца нейкай установай. Калі яна кантралюецца ў нейкай ступені, то для атрыманьня гранта, яна павінна давесьці, што самастойна прымае рашэньні ў тым, што датычыцца бюджэту, назначэньні на пасады, асабліва ў кіруючы орган).

Форму заяўкі і падрабязную інфармацыю аб праграме можна атрымаць на сайце: http://www.delukr.cec.eu.int альбо праз тэлефон + 380 (44) 462 00 10 (Кіеў, Украіна). Пытаньні дасылайце на адрас: Andre.Quirynen@cec.eu.int

Рэдакцыйная калегія:
Х.С. Жаляпаў - галоўны рэдактар,
І.Ціханаў - вёрстка

Адрас рэдакцыі: 210015 Віцебск, пр-т Чарняхоўскага, 12-17,
тэл/факс: (0212) 22-49-25; E-mail: info@sapega.org;
I-Net: www.sapega.org
Распаўсюджваецца бясплатна

Выдавец: Віцебскае абласное аддзяленне ГА «Фонд імя Льва Сапегі»
Наклад 160 паасобнікаў
Для унутранага карыстання